# ІСКРЫ ІЛЬІЧА



N6

1931

На месцы разбураных белапалякамі вёсак і гарадоў расьце і мацнее Савецкая Сацыялістычная Беларусь

# 900 ТЫСЯЧ ДЗЯЦЕЙ ПАЗБАЎЛЕНЫ ШКОЛЫ

У фашысцкай Польшчы ня вучыцца ў школе 900 тысяч дзяцей рабочых і працоўных сялян. Ня вучацца таму, што дзяржава не клапоціцца аб гэтым. Капіталісты і памешчыкі кажуць, што няма настаўнікаў. Гэта няпраўда: настаўнікі ёсьць, але яны беспрацоўныя.

Дзяржава адпускае для асьветы дзяцей працоўных зусім мізэрныя грошы. На пабудову школ дзяржаваю адпушчана 1 мільён злотых, а патрэбна 5 мільярдаў злотых, каб задаволіць патрэбы школы. Такім чынам каб пабудаваць належны лік школ, якімі можна будзе ахапіць усіх дзяцей, патрэбна 5 тысяч гадоў.

Затое не шкадуюць капіталісты грошай на падрыхтоўку вайны супроць Савецкага Саюзу. На гэтую справу трацяцца цэлыя мільярды.

Зразумела, што сотні тысяч дзяцей, якія засталіся бяз школы, гэта—дзеці рабочых і вясковай беднаты. Дзеці капіталістаў і памешчыкаў усе вучацца.

Ня лепшае маюць шчасьце і тыя дзеці беднаты, якія папалі ў школу. Іх там вучаць маліцца богу, любіць і паважаць капіталістаў. Настаўнікі стараюцца выхаваць з дзяцей пакорлівых служак для капіталістаў і памешчыкаў.

Але гэта ім ня ўдасца. Дзеці рабочых ідуць не за настаўнікамі, а за сваімі бацькамі, якія змагаюцца з капіталістамі. Растуць і мацнеюць у Польшчы рады піонэрскай арганізацыі.

Піонэры выдаюць сваю газэту. Але выдаецца яна тайком, каб ня ведалі аб гэтым капіталісты. Бо, каб ведалі, дык пасадзілі-б у турму тых, хто яе выдае і пашырае.

---

**Буржуазія ўсімі сіламі і спосабамі стараецца зьнішчыць рэволюцыйны рух. Турмы буржуазных краін перапоўнены рэволюцыянэрамі.**

**Дзеці! Усе ўступайце ў рады Мопру! Сваімі капейкамі дапамагайце нявольнікам капіталу і іх абяздоленым сем'ям.**

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 3-ці

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 15 к. |
| На 3 м-цы | 45 к. |
| На 6 м-цаў | 90 к. |
| На 1 год. | 1 р. 80 к. |

№ 6 чэрвень 1931 г.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25

## 11-е ЛІПЕНЯ—
## ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ АД БЕЛАПАЛЯКАЎ

У 1919 годзе польскія паны ўзьнялі вайну супроць Савецкай улады. Польскім паном памагала ў гэтай вайне буржуазія і іншых заходніх краін. Буржуазія спадзявалася, што яна пераможа Саветы і адновіць у нас стары парадак.

Савецкая краіна ў той час ваявала з многімі царскімі генэраламі. У нас панаваў голад, страшэнная беднасьць, усё багацьце краіны было разбурана вайною. І вось белапалякі скарысталі такі зручны для вайны момант. Яны захапілі амаль палову Беларусі—аж да ракі Бярэзіны.

Польскія паны адразу-ж пачалі аднаўляць у захопленай Беларусі старыя парадкі. Бізун памешчыкаў і жандараў засьвістаў па сялянскіх сьпінах. За нязначную правіннасьць супроць паноў і іх законаў каралі сьмерцю.

Але польскія бандыты нядоўга раскашаліся. Магутная чырвоная армія пры дапамозе рабочых і сялян 11-га ліпеня 1920 г. **вызваліла Менск, а разам з ім і значную частку Беларусі ад балапольскай навалы.**

Пры адступленьні ашалелыя польскія бандыты пускалі з дымам і пажарам цэлыя гарады, мястэчкі і вёскі, жудасныя малюнкі прадстаўлялі з сябе такія гарады, як Барысаў, Менск. Людзі кідалі вёскі і хаваліся ў лясох, дзе ствараліся цэлыя партызанскія атрады, якія памагалі Чырвонай арміі біць ворага.

Гэтак распраўлялася азьвярэлае панства над рабочымі і сялянамі Савецкай Беларусі. Гэтак яно зьдзекуецца і цяпер з рабо-





чых і сялян Заходняй Беларусі, што засталася пад уладай белай Польшчы.

Але дні панаваньня польскіх паноў зьлічаны. Беларусь Савецкая і ўвесь Савецкі Саюз расьце і мацнее з кожным днём.

У нас, у Савецкім Саюзе, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, бурным тэмпам расьце соцыялістычная гаспадарка. З кожным днём вырастаюць усё новыя і новыя заводы і фабрыкі. Пяцігодка выконваецца за чатыры гады, а па важнейшых галінах гаспадаркі—за тры і нават за два з палавінаю гады.

Вялікія дасягненьні мы маем і ў соцыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі. Палавіна дробных бядняцка - серадняцкіх гаспадарак ужо аб'ядналася ў колгасы. А да канца пяцігодкі Савецкі Саюз у асноўным будзе колектывізаваны поўнасьцю!

Савецкая Беларусь, як і ўвесь Савецкі Саюз, становіцца краінай суцэльнай граматнасьці, усе дзеці ахоплены школаю. Вучацца грамаце і ўсе дарослыя, якія ня мелі магчымасьці вучыцца пры былой царскай уладзе.

Зусім другое там, у Заходняй Беларусі, і ва ўсім капіталістычным сьвеце. Там пануе голад, беспрацоўе. Фабрыкі і заводы зачыняюцца. Рабочых выганяюць з фабрык і заводаў. Яны застаюцца без кавалка хлеба. Лютыя паны зьдзекуюцца з працоўных. Цэлымі сотнямі саджаюць у турмы, расстрэльваюць.

Дзецям працоўных капіталістычных краін няма магчымасьці вучыцца. Яны галодныя, босыя. Замест школ там будуюць турмы для працоўных.

Капіталісты скрыгочуць зубамі на магутны Савецкі Саюз, дзе ўлада належыць рабочым. Яны рыхтуюць нам вайну. Але ў нас ёсьць магутная Чырвоная армія, якая цьвёрда абараняе межы Саюзу. Рабочыя ўсяго сьвету не дапусьцяць, каб капіталісты зьнішчылі іх соцыялістычную бацькаўшчыну—СССР.

Вельмі цяжка жывецца рабочым і сялянам у капіталістычных краінах. Але, ня гледзячы на гэта, рабочыя і сяляне Заходняе Беларусі і ўсіх капіталістычных краін з кожным днём усё больш і больш рашуча выступаюць на змаганьне з панамі, за Савецкую ўладу!

Комуністычная партыя Заходняй Беларусі шырыцца і мацнее, пад яе штандары ідуць усе прыгнечаныя, усе рабочыя і сяляне. Астатняе і рашучае змаганьне працоўных з панамі вельмі блізка. І ў гэтым змаганьні пераможуць рабочыя і сяляне на чале з Комуністычнай партыяй. Беларусь Заходняя павінна быць—і яна будзе!—Беларусьсю Савецкай.

# ЗА РЭВОЛЮЦЫЮ

*Апав. В. СЬНЕЖНАЙ*
*Малюнкі. Е. РАГОВА*

Васіль доўга ўглядаўся на фотографічную картку. Сёньня мінула дзесяць гадоў, як забіты яго бацька, замучана маці!

Дзесяць гадоў...

Цяпер Васіль—комсамолец. Ён высокі, як малады дуб, дужы, поўны сілы. А тады яму было толькі дванаццаць гадоў.



„Дванаццаць гадоў—піонэрам быў-бы“, — падумаў ён.

І ўспамінае Васіль пра тыя далёкія жахлівыя гады.

Вясёлы, бадзёры бацькаў твар нібы жывы паўстае перад вачыма. Любіў ён свайго сына Васіля!

— Рэволюцыянэрам ён у мяне будзе, комунарам!— казаў бацька, ласкава гладзячы бялявую сынаву галоўку.

Пямятае Васіль і фабрыку, дзе працаваў яго бацька. Разбураныя цэхі, параскіданыя машыны. Толькі частка рабочых не пакінула фабрыкі—стукаючы сваімі малаткамі, яны ажыўлялі мёртвыя фабрычныя сьцены.

І горад выглядаў, як пасьля пажару. Зруйнаваны будынкі, на ямах вуліцы... Галодныя і перапалоханыя людзі...

Толькі гладкія коні польскага войска ды бізуны польскіх паноў гулялі па горадзе.

Да бацькі цёмнымі вечарамі асьцярожна прыходзілі рабочыя і падоўгу раіліся... Маці, бледная, перапалоханая, стаяла ў сенцах прыслухоўваючыся, што робіцца на вуліцы.

Потым рабочыя пачалі зносіць шашкі, стрэльбы. А аднаго вечара, калі ў коміне люта і жудасна завываў вецер, тата пацалаваў матку і сына.

Васіль ведаў—бацька ідзе ваяваць, біць белапалякаў. Ён ня плакаў, а толькі прасіў, каб тата ўзяў яго з сабою.

—Малы яшчэ,—адказаў бацька, цалуючы сына ў галаву.—Заставайся з мамаю...

Маці дрыжачымі рукамі зачыніла за ім дзьверы.

Праз колькі гадзін у горадзе загопалі стрэлы, потым, як шалёная, праляцела польская коньніца і затарахцеў здалёку кулямёт.

Васілёк сядзеў у кутку і думаў: „Гэта тата б‘е паноў“. Яму хацелася тады толькі аднаго—быць там, з бацькам.

У горадзе прабегла чутка—рабочыя аб‘ядналіся з партызанамі і паўсталі супроць белапалякаў.

А ў горадзе паны каралі „вінаватых“.

Нехта выдаў рабочых...

Праз два тыдні да іхняй хаты прыляцелі тры конныя. Лаючыся, яны разламалі дзьверы і, як зьвяры, накінуліся на Васіля і яго матку.

Памятае Васіль, як блiснула перад вачыма шашка. У вушах раптам зазьвiнела i ён пакацiўся...

Апамятаўся Васiль у пакоi сваёй цёткi Марыны. Галава ў яго была забiнтавана.

—Дзе мама?—кiнуўся ён i зараз-жа ўпаў на падушку. Шыю нiбы хто сьцiснуў абцугамi.

—Мама прыдзе...—неяк безнадзейна адказала цётка Марына, i Васiлёк убачыў, што яна цераз сiлу стрымлiвае слёзы.

—Дзе мама?—зноў запытаўся Васiль.

Цётка Марына залiлася сьлязьмi.

Калi Васiль папраўiўся, у горадзе ня было ўжо белапалякаў. Чырвоны сьцяг красаваўся на фабрыцы, дзе працаваў яго бацька.



Але Васiль больш ня меў нi бацькi, нi маткi. Дзьве сьвежыя магiлы стаялi поплеч на гарадзкiх могiлках. Белапалякi, даведаўшыся, што бацька быў паўстанцам, замучылi Васiлёву матку, а бацьку забiлi ў час бою: Ён нёс сьцяг i быў адным з першых.

Васiль зноў углядаецца на картку. Яго бацька i мацi, як i тысячы iншых рабочых, сваiм жыцьцём здабылi рэволюцыю.




...Сёньня там у заграні́чных ботах
Жандары-наймі́ты крываваю разьнёй
Нашых змучаных братоў за польскі „злоты“
Зьвярына катуюць, накінуўшысь грунём.

Па сьпінах мужыкоў ангельскі сьвішча шомпал
Гуляе паншчына—нікчэмы чорнацьвет.
Чаго-ж маўчыць культурная Эўропа?
Крык зьняволеных даносіцца у сьвет.

Там Лукскіх камер не хапае,
Там шляхі афарбавалі кроў...
Што-ж паноў разьюшаных стрымае?
Правіць турмамі Пілсуцкі-Мураўёў.

Але шляхі адважнага змаганьня
Ня змые паншчына кіпучаю крывёй.
Надыйдзе новае, агністае сьвітаньне
Сярпа і Молата над Злучанай Зямлёй.

**М. Чарот**

# Змаганьне за волю



*Урыўкі з поэмы „БОСЫЯ НА ВОГНІШЧЫ“*
*Малюнкі РОЗАНАВА*

* * *

Крыжы... курганы на балоце...
Заросшыя дзёрнам магілы—
Ўсё ў вогненнай зноў пазалоце:
Бушуюць дзьве страшныя сілы,—

Змагаюцца: праца з багацьцем;
Сьвет новы жыцьцё утварае.
Зышліся дзьве моцныя раці,
Î праўда няпраўду змагае.

Глядзяць, пацяшаюцца людзі,
Зюзюкаюць бабы паціху:
— Цяпер мо' і нам добра будзе?
Забудзем бяду ўсю і ліха.

— Баіцца наш пан-непаседа,
Нябось, яго кончыцца песьня!
— Ня будзем больш мець
дармаеда,
Да працы сам пойдзе, аж трэсьне!

* * *

Над балотамі дыміцца—
Згас агонь.
А па вогнішчы імчыцца
Белы конь.

Скача ўлева, скача ўправа,—
Ня стрымаць.
Захацеў улан на славу
Пагуляць.

Расступіся, сьвет, дарога—
Аднаму!
„За айчызну і за бога“.
Што яму?!

Яго сіла, яго права,
Ёсьць бізун...
Скача ўлева, скача ўправа
Конь-скакун.

Гэй, ляці, але дзяржыся,
Злы яздок,
Без пары не праваліся
У масток...

* * *



На вогнішчы басанож,
У руках вінтоўка, нож...

Здабываць галодным славу:
„Даёш Варшаву!?“

— Нам ня трэба гарады:
Волі сьцяг нясём туды,

Іскры гонім мы пажару.
Сьмялей ударым!

„Нам дарогу—уцякай!“
Чуваць крыкі: а-я-яй!..

Бач, улан астатні едзе:
„Ах, цо то бэндзе?..“

А чырвоныя ідуць,
Песьні волі зноў пяюць,

Адусюль бягуць к ім людзі:
— Нам цёпла будзе!



* * *

Замоўклі песьні грознай сілы...
Адкуль прышлі? І хто яны?
Што рвуць няволі кайданы
І сыплюць сьвежыя магілы?..



Яны—байцы вялікай раці.
Іх хата там, дзе ёсьць прастор.

Няволя, крыўда—вось іх маці!
Ідуць яны да сонца й зор.

За імі йдзе, хто голы, босы,
Ў пакуце жыў хто цэлы вёк...
Дарогу чорны сьнег заносіць—
Загінуць можа чалавек.

— Загінуць? Што-ж. На тэй
магіле,
Якая зможа прыгарнуць,
Вясною раньняй, урадлівай
Прыгожа кветкі зацьвітуць.

Прывабіць колер іх чырвоны
Схіліць калені над пяском
Таго, хто шле цяпер праклёны
І вострыць меч на нас тайком.






*Апавяданьне В. ЗІНДЭ*

Пра тое, што мама рыжанькай Нінелі мае чырвоны сьцяг, дзеці даведаліся выпадкова.

Прышла яна па Нінель у дзіцячы сад. Пачала скідаць пальто, і тады дзеці заўважылі на левым баку яе кафтана яркі ордэн Чырвонага Сьцягу.

— Ого! Цётка, а з чырвоным сьцягам! — зьдзіўлена закрычаў Кім.

— Цётка Зіна, — запытаўся Спартак, — хіба-ж і жанчынам даюць ордэны?

— Сам бачыш, Спартак. Калі носіць — значыцца, заслужыла.

— Мая мама — камандзір, — горда сказала Нінель.

— І мая дачушка хоча стаць камандзірам, — усьміхнулася Нінеліна маці.

— Цётка, — сказаў да яе Кім, — а завошта вам далі ордэн?

— Але, але, за што? Раскажэце нам — замітусіліся дзеці.

Нінеліна мама ўсьміхнулася і сказала:

— Добра, дзеткі, раскажу, калі цётка Зіна дазволіць.

Цётка Зіна згадзілася, і Нінеліна маці расказала вось што.

— Гэта было ў 1919 годзе. Цяжкі быў тады час. Генэралы і афіцэры акружылі з усіх бакоў маладую яшчэ Савецкую рэспубліку. Траха ня ўсе рабочыя фабрыкі, дзе я працавала, пашлі на фронт. Разам з імі пашла і я.

Папала я ў полк, а там былі яшчэ чатыры жанчыны.

Спаткалі нас там адразу кепска.

— Ідзеце ў тыл. Знайшлі сабе месца! У пекла лезеце. Яшчэ заб'юць, — зьдзекваліся з нас чырвонаармейцы.

А калі ўбачылі, што мы ваюем ня горш за іх, пачалі з намі лепш абыходзіцца, па-таварыску.

Была такая справа. У час перастрэлкі з лесу неўспадзеўкі выскачылі казакі. Некаторыя чырвонаармейцы напалохаліся, пакідалі вінтоўкі і кінуліся наўцекі.

Ня стрывала я, ды як крыкну:

— Таварышы, наперад! Крышы белых! Ур-р-раа!

А сама — наперад з вінтоўкаю, кінулася на казакоў. Ззаду ад



*Увесь полк кінуўся за мною.*

мяне пачулася магутнае, як гром, „ура!“

Увесь полк кінуўся за мною.

Ня вытрымалі казакі. Завярнулі коняй і памчаліся назад.

А на другі дзень ужо самі чырвонаармейцы паказаць сваю сьмеласьць захацелі. Хоць белых было ў тры разы болей, а пашлі на іх і біліся, як ніколі. Мала каму з белых удалося выратавацца ў гэтай бойцы...

Кепска было ў палку з харчамі. Не хапала і адзеньня.

Некалькі дзён мінула пасьля гэтай бітвы. Клічуць мяне да камандзіра палка.

— Вось, што, таварыш Якушэвіч,—кажа ён да мяне,—мы маем весткі, што на станцыі Галубое стаіць цягнік з харчамі і адзеньнем. Чыгуначныя рабочыя за нас. Ідзі, і як хочаш, а прыгані сюды цягнік.

— Слухаюся, таварыш камандзір,—адказала я.

Праз усю ноч прабіралася я да станцыі. Недалёка ад яе заходжу ў хату чыгуначніка. Стары стрэлачнік ляжаў на лаўцы.

— Дайце вады напіцца,—папрасіла я.

— Праходзь, праходзь! многа вас тут цягаецца, — крыкнуў мне стары.

— Таварыш — кажу яму,— дай вады!..

Як сарвецца стары з лаўкі, кінуўся да мяне, шэпча спалохана:

— Ты тут аб таварышох не ўспамінай! А то разьведка ўсюды вушы свае разьвесіла. І цябе і мяне да сьценкі паставяць...

А вады мне даў.

Села я на лаўку адпачыць і асьцярожна прагаварылася, хто я і чаго прышла.

— Ты пабудзь крыху тут. Адпачні пакуль, — занепакоіўся стары.—Вунь там у скрынцы знойдзеш чым пажывіцца, а я скора вярнуся.

Пашоў і зьнік.

А ўвечары ў хаце сабралася чалавек пяць рабочых.

З захапленьнем слухалі яны, што я гаварыла пра наш полк, пра змаганьне з белымі.

А потым я сказала ім, для чаго прышла сюды, у тыл да белых.

Загаварылі рабочыя:

— Што-ж, давай паспрабуем. Альбо пан—альбо прапаў. Усё роўна ад белых жыцьця няма.

— Ці не разабрана хаця сьпераду дарога?—сказаў хтосьці.

— Ну, што-ж! Разабрана дык разабрана. Пусьцім тады цягнік пад адкос, — адказаў качагар, увесь чорны ад вугальнага пылу.

— Дык чаго-ж нам чакаць, хлопцы? Хадзем зараз-жа.

Мяне пераадзелі. Запэцкалі твар і рукі аліваю, чорным пылам. Я і яшчэ двое рабочых узьлезьлі на паравоз і ціха пад‘ехалі да цягніка з харчамі, які стаяў на запасной лініі. Афіцэры і салдаты стаялі на варце, затрывожыліся былі, абкружылі нас.

— Ня турбуйцеся, гаспадзін афіцэр,—супакоіў іх адзін рабочы,—скора сюды прыдзе новы цягнік. Ваш мы вывядзем і па-





*Увечары ў хаце сабраліся рабочыя.*

ставім на вольную лінію, а той загонім сюды.

Афіцэр нават падзякаваў рабочых за іх паслугі.

Паравоз рабіў манэўры нядоўга. Мы набралі каля вадакачкі вады і, як-бы праводзячы манэўры, ад'ехаліся далёка ад станцыі.

— Пара,—сказаў адзін рабочы машыністу.

Паравоз раптам рэзка тузануў і паляцеў наперад. За ім зачахкалі вагоны. Ззаду мы чулі крыкі, стрэлы. Некалькі куляў стукнулася аб паравоз.

А мы толькі сьмяемся і не заўважылі, як пад'ехалі да станцыі, дзе стаяў наш полк.

У вагоне апрача харчоў была і зброя.

Ну, вось за гэта мне далі ордэн Чырвонага Сьцягу, як нагароду.

Скончылася грамадзянская вайна, і я вярнулася зноў на сваю фабрыку. Папрацавала некалькі год, і мяне паслалі вучыцца.

Цяпер я вучуся і вучу сваю Нінель, каб і яна таксама, як і я, не шкадуючы свае сілы і жыцьця, паслужыла нашай Комуністычнай партыі і рабочым усяго сьвету.

Вось і ўсё, дзеткі.





# Андрэ Марці

Масква наша! Ленінград наш! У кастрычніку 1917 году рабочыя перамаглі памешчыкаў і капіталістаў.

Але пасьля гэтага яшчэ доўга цягнулася вайна.

— Мы яшчэ паваюем,—казалі буржуі,—паглядзім хто каго.

Яны паклікалі на дапамогу буржуеў з другіх краін.

— Дапамажэце нам,—прасілі яны.—Прыдзе час—разьлічымся.

Прыехалі ў Адэсу нямецкія войскі, ангельцы, грэкі. Французскія караблі ўвайшлі ў наш порт.

— Дзякуй богу,—казалі ў Адэсе буржуі і махалі хустачкамі.

А мы толькі сьціскалі кулакі.

У нас не хапала зброі, не хапала патронаў.

У горадзе ў нас было шмат ворагаў.

З мора на нас глядзелі гарматы. Французскія крэйсэры, мінаносцы навялі гарматы проста на рабочыя кварталы.

— Бальшавіком сьмерць!—казалі французскія генэралы і афіцэры.

А тут яшчэ ў горад увайшло белае войска. Яны крычалі:

— Сьмерць бальшавіком!

Яны секлі нас шашкамі і расстрэльвалі з кулямётаў.

Цяжка несьці дамавіну, у якой ляжыць таварыш.

Мы абхінулі чалавека ў чырвоную матэрыю.

Мы ішлі на могілкі і паўтаралі:

— Паглядзім яшчэ, хто каго. Чырвоная армія ідзе нам на дапамогу.

Яна ўжо блізка. Скора будзе тут.

Чырвоная армія падышла ўжо да Хэрсону. Хэрсон недалёка ад Адэсы.

— Прыдзецца аддаць Хэрсон чырвоным,—парашылі французскія генэралы.

Яны сагналі ў будынак на беразе мора дзьве тысячы чалавек. Потым закідалі яго сухою саломаю і аблілі газаю.

— Агонь!—загадаў адмірал.

Караблі стрэлілі залпам з гарматаў. Знарады пацэлілі ў будынак і газа загарэлася. Людзі згарэлі.

Французскага галоўнакамандуючага звалі генэрал Бартэлё. Ён плаваў на мінаносцы „Протэі“.

На гэтым мінаносцы служыў мэханікам матрос Андрэ Марці. Ён быў бальшавіком.

Андрэ Марці зьбіраў матросаў з французскіх караблёў і казаў ім:

— У Расіі рэволюцыя. Рабочыя павінны перамагчы. А мы дапамагчы ім павінны. Артылерысты! Што вы зробіце, калі генэрал Бартэлё загадае страляць у рабочых?

— Мы будзем страляць у генэрала Бартэлё,—адказвалі артылерысты.

За горадам, у склепе, мы зрабілі патайную друкарню. Шпіёны шукалі яе, але не маглі знайсьці.

Тут, пад зямлёю, мы друкавалі газэту „Комунист“. Яшчэ друкавалі на францускай мове газэты для матросаў, розныя лістоўкі і адозвы. Газэты перадаваў матросам Андрэ Марці. Нашы хлопцы ўночы разьвешвалі адозвы па ўсім горадзе. Французскія салдаты і матросы спыняліся і чыталі:

„Салдаты і матросы!

Учора зноў французскія салдаты стралялі з кулямётаў у чырвоныя атрады. Што вы робіце? Вас абманулі: вы зноў выступілі супроць сваіх братоў. Вы такія-ж рабочыя і сяляне, як і яны. Агледзьцеся і падумайце раней, чымся страляць.“

Урэшце, нашы партызаны падышлі да Адэсы. Мы ўзяліся за зброю. Буржуі кінуліся на францускія караблі. Караблі павярнуліся і вышлі з порту.

Адэса стала чырвонай.

— Праклятыя бальшавікі!—казалі генэралы.—Яны ўзялі Хэрсон. Яны ўзялі Нікалаеў. Яны ўзялі Адэсу.

Папрабуем абараняць Севастопаль,—парашылі генэралы.

Францускія караблі падышлі да Севастопалю і навялі свае гарматы на горад.



Але Андрэ Марці працаваў недарэмна.

Раптам на францускіх караблёх узьняліся чырвоныя сьцягі, матросы засьпявалі „Інтэрнацыянал“.

Матросы спусьцілі лодкі. Яны сьпяшаліся на бераг.

— Няхай жыве рэволюцыя! Няхай жывуць бальшавікі!—крычалі матросы.

Яны зьмяшаліся з нашымі матросамі і рабочымі і пашлі па вуліцах.

Францускія афіцэры стралялі ў дэмонстрацыю. Але перамога была наша.

Праз тыдзень чырвонае войска ўвайшло ў Севастопаль.

Сярод матросаў, якія на вуліцах крычалі: „Няхай жыве рэволюцыя!“—ня было Андрэ Марці.







— Андрэ Марці рыхтуе паўстаньне ў флёце,—шапнуў начальству здраднік.

— Рукі ўверх!—крыкнулі два афіцэры і арыштавалі Марці.

Гэта здарылася за тры дні да таго, як над францускімі караблямі ўзьняўся чырвоны сьцяг.

У той дзень, калі Чырвоная армія ўступіла ў Севастопаль, Андрэ Марці пад моцнаю вартаю прывезьлі ў падвальную камэру турэцкае турмы ў Константынопалі. Тут яго судзілі вайсковым судом.

— Вы ня маеце права мяне судзіць,—сказаў Андрэ Марці.— Судзіць патрэбна вас.

— 20 гадоў катаргі,—быў прысуд.

Вайсковая турма ў Тулоне. Цэнтральная турма г. Німа. Адзіночная турма ў Ніцы. Турмы Сомюра, Тура і Мелэна. Турма ў Клервэ.

Гэта турмы, якія прайшоў Андрэ Марці.

Рабочыя Францыі дамагліся вызваленьня Марці.

Рабочыя, матросы, салдаты крычалі:

— Аддайце нам Марці! Мы патрабуем, каб яго вызвалілі! Мы будзем баставаць!

Вароты Клервоскай турмы адчыніліся: буржуі струсілі.

— Марці на волі! Марці на волі!

Рабочыя, матросы, салдаты віталі адзін другога.

Чатыры гады назад Андрэ Марці прыяжджаў да нас, у Савецкі Саюз.

Рэволюцыйны вайсковы савет Саюзу выдаў загад:

**„... У дні дзесяцігодзьдзя юбілею перамогі рабочае клясы ў знак брацкага адзінства ўсяго сьвету ўзнагародзіць ордэнам Чырвонага сьцягу... былога марака францускага флёту, тав. Андрэ Марці“.**



# БАЛЮЕ ПАНСКАЯ ВАРШАВА...

Балюе панская Варшава,
Бы дзень апошні хмелем
хмеліць...
А Вісла пеніцца крывава,
А ў Вісьле плавае тапелец.
Шасьцяць мундзіры, аксаміты,
Агнямі зыркаюць палацы...
Крывёй работніцкай заліты
Завулкі, вуліцы і пляцы.

* * *

Балюе панская Варшава.
Ксяндзы частуюць сакрамэн-
там;
Парадак дня сягоньня—
справа
Пра аб'яднаньне інтэрвэнтаў [1]).
Паны з маркізамі Парыжу,
З баярствам Бухарэсту ў
хэўры,
Як СССР расьпяць на крыжу
Плянуюць пляны і манэўры.

* * *

Балюе панская Варшава,
А для гуманнасьці, прогрэсу [2])
Йдзе за аблаваю аблава
На ўсходніх „вольных“
„польскіх“ Крэсах.
Абрабаваных да кашулі,
Там беларуса і ўкраінца
Вядуць закованых патрулі
Па акрываўленым гасьцінцы.

* * *

Балюе панская Варшава...
Жандарскі конь б'е капытамі,
Пад капытамі жудкай явай—
Людзкія галавы пластамі.
Людзкім жыцьцём набіты
турмы,
Бунтуе ў турмах роспач
мсьціва...
А ў Бэльвэдэры выюць
гурмам:
„Нех жые польска дэфэн-
зыва“ [3]).

* * *

Балюе панская Варшава,
Бы дзень апошні хмелем
хмеліць...
А Вісла пеніцца крывава,
А ў Вісьле плавае тапелец...
. . . . . . . . . . . . . . . . .

---

[1]) *ІНТЭРВЭНЦЫЯ—узброены захоп аднэю дзяржаваю другой. Белая Польшча, як іншыя буржуазныя дзяржавы, рыхтуюць інтэрвэнцыю супроць Савецкага Саюзу.*

[2]) *ГУМАННАСЬЦЬ — чалавечнасьць, мяккасьць у адносінах да ўсіх людзей.*

*ПРОГРЭС — поступ наперад у разьвіцьці экономікі і культуры краіны. У панскай Польшчы гэтая „гуманнасьць“ і „прогрэс“ выяўляюцца ў... аблавах на рабочых і працоўнае сялянства, у зьнішчэньні Заходняй Беларусі.*

[3]) *ДЭФЭНЗЫВА — польская ахранка, якая арыштоўвае і бязьлітасна катуе рэволюцыянэраў.*



# Гершонке

Л. РОДЗЕВІЧ

*(Апавяданьне з жыцьця Заходняй Беларусі)*

Ой, зноў прышоў рэбэ вучыць сідэр малога Гершонке. І ня вучыць, а мучыць, дакучаць незразумелымі малітвамі, ад якіх і ў галаве робіцца дрэнна, і ў вачох выступаюць сьлёзы злосьці і крыўды.

Узьдзеў рэбэ акуляры на гарбаты нос, разгладзіў сваю пушыстую іржавага колеру бараду і, пасьлінуўшы языком палец, пачаў ліставаць сьвятую кнігу—сідэр.

— Ай гвалт, а халерынка на тваю галаву,—залемантаваў раптам рэбэ і, зрэпіўшы за карак Гершонке, пачаў клікаць яго маці.

— Во расьце бальшавік, агой,—казаў рэбэ да маці і паказваў з абурэньнем на сярпы, малаты, зьвёзды, нарысаваныя дзіцячаю рукой на старасьвецкай, парудзеўшай ад часу, паперы сідэра.

Але ні маці, ні рэбэ ня білі Гершонке, бо Гершонке быў цьвёрды, як сталь, і ні чым яго ня ўгнеш. Рэбэ і маці гэта ўжо добра ведалі і дзеля таго зразу пачалі з ласкі, пачалі ўгавараць Гершонке вучыцца прамудрасьцяй божых.

— Не чапіся, бо бараду вышчыплю і сала буду есьці,—раптам, успламянеўшы ўвесь, зьвяртаецца Гершонке да рэбэ, у якім бача віноўніка ўсіх сваіх бед.

Але вялікі майсееў закон і вялікая адказнасьць ляжыць на сутулых плячох рэбэ перад яўрэйскім народам. І страшэнна вялікая пагроза гэтаму закону ідзе з боку бальшавізму, вось чаму рэбэ не перастае гладзіць

кучаравую галоўку маладога самадума і хукаць на яго цыбуляй і духоўнай гутаркай.

Але Гершонке цьвёрды, як сталь. І давёў ён гэта не талмудзкімі разважаньнямі, а чынам: крута вырваўся ён з гладзючых і абнімаючых рук, вышаў басяком на марозны сьнег і сказаў, што ня вернецца ў хату, пакуль рэбэ ня выйдзе вон.

Тае сьнег пад гарачымі асівераўшымі ножкамі малога Гершонке, тае відавочна, дык як-жа мела не растаяць матчынае сэрца, такое кахаючае, добрае сэрца. Узяла маці на рукі свайго гадунца, прыгарнула яго зьзябнутага да грудзей, у якіх клекатала боль і гордасьць, надзея і трывога. Туліла маці і цалавала свайго пястунка і плакала, а ён хоць-бы што—цьвёрды, як сталь, толькі сьціснуў моўчкі за шыю маці сваімі пругкімі мурзатымі ручкамі.

Узяўшы паняверераны сідэр, пашоў засмучаны рэбэ, пашоў хутчэй, пакуль не вярнуўся з фабрыкі рабочы Борух Пышка, які напэўна моцна заступіцца за свайго сына Гершонке.

Ой гэты Гершонке, хоць-бы раз ён калі заплакаў, распусьціў нюні; ужо восьмы год канчае, а такі сьмелы, а такі цьвёрды.

Наляцела раз ноччу паліцыя, бо ведала, што дзьве сястры Гершонке комсамолкі. Павальны



*— Не чапіся, бо бараду вышчыплю і сала буду есьці...*

вобыск, пагрозы, зьдзек. Усе ўстрывожаны, усхвалёваны, паўскаквалі з пасьцелі—той плача, той дрыжыць, а Гершонке прабудзіўся і нярухомы сочыць за паліцыяй сваімі пашыранымі ад перапуду чорнымі вачмі, якія гараць вугольчыкамі з цемнаты. Раптам, як што ўспомніўшы, рупна ўстаў і накіраваўся да выхаду. Паліцыянт затрымаў яго за руку і спытаў, куды ідзе. Але Гершонке, груба вырваўшыся, вышаў на двор.

— Ну, ідзі, смаркач, але назад ня пушчу.

Паліцыя, зрабіўшы вобыск дома, пашла аглядаць двор і кладоўку. У комсамолак дух занімала, калі паліцыя стала дабірацца да месца, дзе ляжалі захаваныя лістоўкі партыі. На вялікае іх зьдзіўленьне, лістовак не аказалася. Комсамолкі здагадаліся, што тут прыслужыўся Гершонке, і пасьля вобыску прысталі да яго, каб вярнуў лістоўкі. Але Гершонке і слухаць не хацеў.

— Не аддам, бо мама праз гэта часта плача і трывожыцца, а вас у паліцыі б'юць. Не аддам.

Аднак хутка даўся ўламацца і ня толькі аддаў лістоўкі, але праз якісь час у сваёй сумцы да кніг і сам стаў разносіць падпольную літаратуру ці, як ён называў, „лісточкі з дрэва“.

А як селі яго сёстры ў астрог, дык, ня гледзячы на непагоду і зьдзек панскіх служак, акуратна насіў пад астрожную браму ежу для сясьцёр. Хай сьнег, сьцюжа, сьлякота ці дождж—Гершонке будзе адстойваць пад астрогам цэлымі гадзінамі, рашуча дрогаючы сьціснутым кулачком у жалезныя вароты астрогу, дамагаючыся, каб забралі ежу.

Аднаго разу пасьля Першага Мая былі арыштаваны ўсе хатнія, толькі астаўся Гершонке і яго васьмідзесяцігадовая бабуля.

Забіўся ён у кут, як затраўлены зьвярок, і аб нечым напружана думаў.

Бабуля доўгі час угаварвала памаліцца богу, каб хутчэй выпусьцілі тату і маму, але гэтыя ўгаворы адляталі, як гарох ад сьценкі. Як бабуля задрамала, узяў Гершонке ліхтары, пашоў на рынак, замяніў іх на хлеб і селядцы, злажыў у кошык і павалок у паліцыю, дзе сядзелі арыштаваныя бацькі.

— Ты чаго? Ты хто?—спыталі там у Гершонке.

— Перадайце вось гэтае тату і маме.

— А хто яны такія?

— Тата мой Борух і ў падраных ботах, а мама, ну мама,



*— Што-ж табе яшчэ трэба?— крыкнуў дэфэнзыўшчык.*

такая добрая і часта плача. А кошык мне вярнеце.

Атрымаўшы пусты кошык, Гершонке выбірае сабе са дна крошкі, есьць і чакае.

— Што табе яшчэ трэба?— крыкнуў дэфэнзыўшчык.

— Хачу разам з татам і мамай дахаты пайсьці.

— Вон, жыдзяку!

Натаўклі і выкінулі на вуліцу.

Але Гершонке не заплакаў, ён цьвёрды, як сталь. Апынуўшыся на вуліцы, аглядаў закратаваныя вокны ненавіснай будыніны, каб згледзець сваіх бацькоў. Ня было.

У адным з ніжэйшых вокнаў высунулася шапка паліцыянта, які грозна патрасаў на яго кулаком. Гершонке разважна падняў камень і наважыўся кінуць у акно. Дзяжурны паліцыянт, які стаяў пры ўваходзе, цыкнуў на Гершонке і нацэліўся з рэвальвэра.

Ня спускаючы воч з паліцыянта, Гершонке прастаяў момант з паднятай рукой, урэшце адкінуў камень убок, пасьля дражнючы, выставіў язык на паліцыянта, ямчэй узяў кошык і пашоў па вуліцы.

Ой гэты Гершонке, будзе з яго бальшавік!






„Чырвоная Зорка“
Наш колгас завецца.
У колгасе дзеткам
Радасна жывецца.

Раней нашы маткі,
Ідучы на працу,
Дзяцей пакідалі
У бруднае хаце.



А цяпер другое:
Мы ўжо больш ня плачам.
Цяпер пры колгасе
Маем сад дзіцячы.

Ёсьць у нас тут цацкі,
Папера, алоўкі.
Любім маляваць мы
Каня ці кароўку.



Эх, ды што пра гэта
Доўга разважаці...
У дзіцячым садзе
Ня жыцьцё, а шчасьце.

Вучань Янка Заруба.



# ЭЛЕКТРЫЧНАСЬЦЬ У КОЛГАСЕ

*Апавяданьне* АКУЛЬШЫНА

Заходзіла сонца. Рыгорка спацеў ад беганіны.

— Гэй, вы! Скарэй на сход да студні! Электрычнасьць будуць пускаць! Тодарка. Аксенька! Шагам марш! Дзядзька Янка, сьпяшайся!

Рыгорка забег у сваю хату. Каля вакна сядзела яго бабка. Яна рабіла панчоху.

— Бабка, на сход! Скора бягучы агонь загарыцца.

— Вось дурны! Да сьмерці напалохаў. Які бягучы? Мусіць, воўчых ягад наеўся, дык мелеш абы што.

— Не мялю, бабка, сапраўды не мялю. Па правадох бяжыць. Бачыш, як табе цёмна панчоху рабіць. А тады лепш будзе.

Рыгорка пабег на двор з крыкам:

— На сход, хутчэй! На сход!

Бабка таксама вышла на вуліцу. Усе сьпяшаліся да студні. Дзеці хваліліся адзін другому:

— У нас усюды правады правялі і шкляныя лямпачкі прычапілі—і на дварэ, і ў хаце.

— А ў нас у хляве.

— Авечкі да сьмерці напалохаюцца электрычнасьці... Яны нічога не разумеюць.

Каля студні стаяла высокая саха. Да яе прыстаўлена драбіна. Малады старшыня колгасу ўзьлез па драбінах наверх. У руках ён трымаў ракету. Народ прыціх. Старшыня сказаў:

— Таварышы! Лямпачкі і правады зроблены як належыць. Зараз будзе пушчана электрычная іскра. Раней—старыя гэта памятаюць—лучыну палілі. Дымная лучына вочы выядала, пры нас лучыны ня было. Але з газаю клопату нямала. Цяпер і газе і запалкам—канец!

Народ зашумеў, засьмяяўся.

— А як-жа прыкурваць? А ў печы запаліць?

— Ну, для гэтага запалкі, вядома, застануцца. А для асьвятленьня — запалак ня трэба. Пакруціў маленькую штучку— і гатова.

З натоўпу вышла маладая колгасьніца.

— Таварыш тэхнік, ці можна такі агонь прыдумаць, каб усё электрычнасьцю рабіць — і ў печы паліць, і самавар награваць?

— Можна, таварыш Аўдоцьця!—адказаў тэхнік.—Усё можна рабіць электрычнасьцю: варыць, асьвятляць, лячыць розныя хваробы, даіць кароў, езьдзіць, араць. Да канца пяцігодкі электрычнасьць будзе асьвятляць многа колгасаў, а гадоў праз дзесяць уся сельская гаспадарка будзе мець электрычнасьць для работы і асьвятленьня.

— Нас тады ня будзе—казалі старыя.



— А мы будзем! — крычалі дзеці.

— Дзядзечка, пускай скарэй электрычнасьць. Цярплівасьці не хапае,—прасілі дзеці.

— Шмат гадоў чакалі, цяпер мінуты засталіся,—сказаў старшыня.

— Электрычны ток будзе пушчаны з млына па нашаму сыгналу.

— Да млына далёка. Як-жа даведаюцца?

Тэхнік запаліў факел і палез з ім да старшыні. Ракету запалілі. Яна зашыпела. Усе паднялі галовы. Народ прыціх. Ракета ўзарвалася. Агністая нітка ўзьвілася к небу. У млыне ўбачылі сыгнал. Пусьцілі ток. Запаліліся агні ў колгасе.

— Ах!—закрычалі людзі.

— Агнёў колькі!... Відно як удзень.

— У кожнай хаце, на кожным двары. І каля студні цяпер носу папацёмку не разаб‘еш...

— І ў хлявох відно.

Пеўні прачнуліся. Кукарэкаюць ад радасьці.

„Праўду ўнучак казаў... Пры такім сьвятле і сьляпы ўбачыць...

А панчохі рабіць—адна любата“,—падумала Рыгоркава бабка.



# ДОНБАС

Нарыс С. Бачкова



## У ПАДЗЯМЕЛЬЛІ

Я ў аднэй з самых вялікіх капальняў Донбасу. Стаю ў падзямельлі, у доўгім калідоры з выбеленымі сьценамі і стольлю. На падлозе калідору ляжаць рэйкі. Мой праваднік Косьця Харчанка, хлопчык гадоў чатырнаццаці, тлумачыць мне:

— Гэта вуліца, праўдзівей сказаць—тунэль, завецца квэршлаг. Ну хадзем.

Мы ідзем па калідоры. Я паглядваю на столь. Я ведаю, што над белай стольлю—зямля. Вялізарная маса зямлі. Паўкілёмэтра да паверхні будзе адсюль.

— Лямпачкі ў спраўнасьці?

Я аглядваю лямпачку, доўгую і вузкую, якую мне выдалі наверсе.

— Гарыць!

— Тады зойдзем сюды.

## КАНАГОН

Мы заходзім у цёмны вузкі завулак.

— Штрэк,—тлумачыць Косьця.

У квэршлагу было сьветла. А ў штрэку мы асьвятляем сабе дарогу лямпачкамі. На няроўнай, мокрай падлозе блішчаць рэйкі. Нізкая столь штрэка падпёрта драўлянымі слупамі. Я спатыкаюся, траха ня падаю. Пад нагамі—кавалкі вугалю, абломкі слупоў, каменьня. Раптам пачуўся моцны сьвіст.

— Сьцеражыся! — крычыць Косьця.

Гул, тупат капытоў. Каля мяне



*Здабываньне вугалю кіркаю.*

прабег конь. Пры сьвятле лямпачкі я бачу—ён сьляпы. За канём бягуць ваганеткі. На пярэдняй, нізка прыгнуўшыся, сядзіць чалавек. Ён сьвішча, махае лейцамі.

— Ваганетачны цягнік,—тлумачыць Косьця.—Канагон сьвішча, каб давалі дарогу.

— Ад чаго конь сьляпы?

— Тут усе коні сьленуць.

— Чаму?

— Хто яго ведае? Ад цемнаты, мабыць, Можа ад вугалю.

## ШЧЫЛІНА

Усё далей і далей прабіраемся мы па штрэку.

— Сюды,—кажа Косьця.

Перад намі вузкая нара-шчыліна. Мы прысядаем і пачынаем паўзьці.

Тут я яшчэ ясьней пачынаю адчуваць, што пад намі вялізарная тоўшча зямлі. Становіцца горача ад духаты. Пот капае ў мяне з твару.

— Затаміўся?—кажа, сьмяючыся, Косьця.

І я бачу, што Косьця таксама стаў падобны да нэгра.

Мы зайшлі ў вугальны пласт.

Глухія стукі. Яшчэ крыху— і мы бачым чалавека. Ён ляжыць на баку і б'е кіркаю, абушком, як кажуць тут, па вугольных скібах. Ад кожнага стуку вугаль скачваўся па схіле ўніз. Гэта працаваў забойшчык. Шчыліна, дзе мы стаім, завецца забой.

— Ну, як работа, браток?— крычыць Косьця.

Забойшчык глядзіць і ўсьміхаецца.

Косьця прабуе вугаль рукою.

— Добры вугаль. Тлусты.



*Кірку замяняе мэханічны малаток.*

— Вугаль, лепшага ня знойдзеш. Госьця прывёў?

— Госьця. Вось раскажы, як працуеш.

Я даведаўся, як шаг за шагам урэзваецца чалавек у вугольны пласт. Забойшчык прыслухоўваецца да кожнага стуку абушка. Па гуку ён пазнае—ці няма небясьпекі, ці ня зваліцца „сундук“ — вялізарны кавалак вугалю, які можа раздушыць

чалавека, як мышанё. Выдзяўбшы дзірку, забойшчык кідае кірку і бярэцца за сякеру—ставіць драўляныя слупкі, узмацняе пячэру.

Тут, у духаце, у вугальным пыле працуе забойшчык шэсьць гадзін.

## ПІОНЭРЫ

Мы ідзем па штрэках у другі пласт.

Там здабываюць вугаль мэханізаваным спосабам.

Косьця расказвае:

— У мінулым годзе над нашаю шахтаю гарэла чырвоная зорка. Гэта значыць—шахта выканала прамфінплян. А ў гэтым годзе патухла зорка. Гэта значыць—прарыў. Цяпер справа пачынае наладжвацца. А было зусім дрэнна.

— А што вы зрабілі, каб зьнішчыць прарыў?

— Хто мы?

— Піонэры.

— Спачатку,—пачаў ён неахвотна,—спачатку нічога. А потым з цэнтру таварыш прыехаў, растлумачыў. Скажу табе, дрэнна было. Стаіць наша школа якраз над намі. А мы ў шахце ня бывалі.

— Ні разу?

— Траха што ні разу.

— А цяпер?

— Цяпер працуем. Гутарылі з рабочымі, якія непаладкі. У казармах бываем. У капальнях памагаем працаваць. Вест кі даем у штаб. Аб мэханізацыі тлумачым. Рабочыя спачатку не хацелі пераходзіць на мэханізаваную здабычу вугалю. Вось чуеш?

Я пачуў знаёмы трамвайны гул. Сьпераду заблішчалі два электрычных ліхтары.

— Электравоз.

Па рэйках каля нас лёгка і весела пранёсься ваганетачны цягнік.

— Гэта табе не сьляпы конь,— сказаў Косьця.

Палезем да ўрубоўкі.

## ЗМАГАНЬНЕ

Праз некалькі мінут я гутарыў з комунарамі. Каля ўрубоўкі



*Рабочыя самі адвозяць ваганеткі з вугалем.*


*Ваганетачны цягнік.*

працуе комуна. Урубовая машына замяняе трыццаць забойшчыкаў. А абслугоўвае яе чалавек пяць. Урубоўка грызе вугольны пласт сталёвымі зубамі. Вугаль адбіваюць мэханічнымі малаткамі. Па канвееру вугаль ідзе да электравозу.

Адзін з комунараў сказаў мне вось што:

— На некалькі кілёмэтраў ідуць падзямельныя норы. У кожнай нары ідзе змаганьне. Мы змагаемся машынай, а забойшчык абушком. Змагаемся, каб выканаць прамфінплян, каб здабыць патрэбную дзяржаве колькасьць вугалю. Сёлета мы павінны даць у пяць разоў больш вугалю, чым летась. Калі не запаліцца чырвоная зорка—гэта азначае, што мы недадалі вугалю. А тады на дзесятках заводаў будзе прарыў.

— Якія-ж у вас посьпехі?

— Пералом ёсьць. Мэханізацыя, ударныя брыгады перамогуць. Думаю—дамо. Свой абавязак перад краінай мы павінны выканаць.

**Дзеці!** Для новых фабрык і заводаў нам патрэбна многа апалу. Здабыча вугалю паводле пляну пяцігодкі павінна павялічвацца з кожным годам у некалькі разоў. Але, каб здабыць гэты вугаль, патрэбны новыя тысячы рабочых-шахцёраў. Цяпер па усёй краіне праходзіць вярбоўка рабочых у Донбас. У гэтай важнай і адказнай рабоце вы павінны прыняць самы актыўны ўдзел. Раскажэце сваім бацьком і братом аб тых перавагах і выгадных умовах працы, якімі дзяржава забясьпечвае рабочых Донбасу. Дапамагайце партыі і комсамолу ў гэтай рабоце.

## ЗАГАДКА

**Я чорны і бліскучы,**
**Ляжу ў зямлі на дне.**
**А людзі бязупынна**
**Капаюць, б'юць мяне.**
**І шлюць мяне далёка**
**Ва ўсе куткі краіны.**

**Вязу я паравозы**
**І рухаю машыны.**
**А так-жа многа рэчаў**
**З мяне вырабляюць;**
**Смалу, аліву, фарбы**
**З мяне здабываюць.**

П. ЛОПУХА

# ПТУШЫНЫ ДАКУМАНТ

На краі лесу, на верхавінах самых высокіх хвояк зьмясьціўся птушыны гарадок. На кожным дрэве па некалькі граковых гнёздаў. Ужо выведіся маленькія грачаняты і сваім пісклівым крыкам напаўняюць край лесу.

Старыя гракі лётаюць на бліжайшае поле і цягаюць адтуль поўнымі ратамі тлустых чарвей.

Шмат патрэбна іх, каб накарміць пражораў грачанят. Без адпачынку лётаюць за чарвямі гракі. І сотні прынесеных шкодных чарвей зьнікаюць у чырвоных роціках грачанят.

Але дарэмна думалі птушкі, калі рабілі гнёзды, што да іх ніхто не дабярэцца. Многа ворагаў у птушак. І вось цяпер нават не заўважаюць змораныя птушкі, як шасьцёра хлапчукоў лезуць да іх па высокіх гладкіх дрэвах.

Цяжка лезьці на такое дрэва. Няма за што зачапіцца, няма на што стаць назе. Але памалу і асьцярожна паўзуць яны ўверх. Вось ужо і гнёзды, а ў іх дзесяткі грачанят.

— Кар-ка-ар, скарэй! Сюды! бяда!—крычаць па-сваему першыя прыляцеўшыя гракі, а за імі ляцяць ужо і астатнія.

— Ка-ар, ка-ар!—І сыплюцца з роту сабраныя чэрві.

Доўга крычалі перапалоханыя птушкі. І нават калі хлопцы скончылі сваю работу, гракі ўсё яшчэ лёталі над верхавінамі хвояк.

Калі-ж супакоіліся і селі на гнёзды, дык убачылі, што ўсё на месцы, грачаняты ўсе цэлыя. Нават яйкі, з якіх яшчэ ня вывеліся грачаняты, былі незакрануты.

Што-ж рабілі тут гэтыя дзеці? І толькі прыглядзеўшыся, заўважылі, што ва ўсіх грачанят адзеты на лапкі маленькія, блісcучыя колцы.

Доўга хацелі птушкі сарваць іх, але дзе там: колцы моцна трымаліся на лапках.

І калі-б гракі ўмелі чытаць, яны-б убачылі, што на кожным колцы выразан надпіс: „Масква, Біостанцыя юных натуралістаў“, і на кожным свой нумар.

Сьмялякі, што не баяліся высокіх дрэў, былі юныя натуралісты. Гэта яны выдалі птушкам такія дакуманты, а потым дома запісалі ў кнігу: „Адзета 60 колцаў гракам“ і тут-жа запісалі нумары колцаў.

Гэта было ў чэрвені. Усе ўжо забыліся аб гракох. Раптам ліст атрымалі. Адкуль? На канвэрце заграгічная марка і надпіс: „Ма-



сква. Біостанцыя юных натуралістаў". А ў канвэрце запіска: „20 студзеня ў акрузе Бэрліну (сталіца Нямеччыны) злоўлены грак з колцам № 168. Пішэце, дзе адзета яно і калі".

Так юныя натуралісты даведаліся, што нашы гракі з Масквы лётаюць зімою ў Нямеччыну.

Выдавецтва
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА"

Рэдактары: ГАЙДУКЕВІЧ
ЯКІМОВІЧ А.

# ЦАЦКІ З КАРОБАК АД ЗАПАЛАК



ФАБРЫКА



ЖЫРАФА



АУТОМОБІЛЬ-ГРУЗАВІК

Заказ № 1067. 4.200 экз. Галоўлітбел № 1122

Друкарня імя Сталіна.